# ЗВЯЗДА

20 сакавіка 1996 г. серада, № 75 (22878)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

## РОЗГАЛАС

### ПАЛЯПШЭННЕ ЁСЦЬ, АЛЕ ЧЫМ ГАНДЛЮЮЦЬ?

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве гандлю, аб'ём рознічнага тавараабароту за студзень-люты 1996 года склаў 7487,7 млрд. рублёў і павялічыўся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 81,9 раза, у параўнальных цэнах знізіўся на 9 працэнтаў.**

Як адзначаюць спецыялісты, пры гэтым тэмпы падзення тавараабароту ў лютым склалі толькі 0,8 працэнта. У той жа час працягвае пагаршацца структура тавараабароту. Так, удзельная вага харчовых тавараў у аб'ёме рознічнага тавараабароту за студзень-люты бягучага года склала 69,2 працэнта супраць 62,4 працэнта за адпаведны перыяд мінулага года.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### ПРАФЕСІЯНАЛЫ ПАТРЭБНЫ ЗАЎСЁДЫ

**Па стану на 1 студзеня 1996 года агульны некамплект афіцэраў у беларускіх Узброеных Сілах складаў крыху больш за дзве тысячы чалавек. У тым ліку на першапачатковых пасадах не хапала 1.145 афіцэраў, з іх камандзіраў узводаў — 617.**

Найбольшы некамплект зведвалі ракетныя войскі і артылерыя (263 чалавекі), войскі сувязі (281), войскі ППА (266), інжынерныя (99), медыкі (146).

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

### НА АДНУ ВАКАНСІЮ — ЧАТЫРНАЦЦАЦЬ БЕСПРАЦОЎНЫХ. ПАКУЛЬ?

**Паводле даных Магілёўскага цэнтра занятасці насельніцтва, з пачатку года колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у горадзе павялічылася на 32 працэнты і склала 7316 чалавек.**

Безумоўна, павелічэнне колькасці «лішніх людзей» літаральна ў арыфметычнай прагрэсіі не радуе. Але ўдвая засмучае іншае: калі на пачатку 1995 года на адно вакантнае месца ў Магілёве прэтэндавалі чытыры беспрацоўныя, дык сёння апошняя лічба ўзрасла да чатырнаццаці. Чакаецца, што становішча на гарадскім рынку працы будзе пагаршацца і далей.

**Сяргей ГРЫБ.**

### У МІНСКУ «ЛАДЫ» ПА-РАНЕЙШАМУ Ў ЦАНЕ

**Пераход Рэспублікі Беларусь да рынку, які суправаджаецца нястрымным ростам цэн і абгрунтаванымі інфляцыйнымі чаканнямі, уносіць свае карэктывы і ў кошт аўтамабіляў. Паколькі для большасці грамадзян іншамаркі па-ранейшаму застаюцца звышдарагімі і недасягальнымі, яны часцей за ўсё робяць стаўку на «Жыгулі» і «Самары».**

Аднак той сумы грошай, якой дастаткова было для пакупкі новенькай легкавушкі яшчэ год назад, сёння ўжо не хапае. Напрыклад, у пачатку мінулай вясны сталічная фірма «ВАЗсервіс» рэалізоўвала «ВАЗ-2108» па 5200—5400 долараў ЗША. Цяпер для таго, каб стаць уладальнікам «васьмёркі», трэба выкласці ўжо 6500—6700 тых жа амерыканскіх долараў.

Мяняецца малюнак не толькі па цэнах, але і па асартыменту наяўных на рынку машын. І гэта цесна ўвязана з вытворчымі планамі Волжскага аўтазавода і яго экспартнай палітыкай (большасць прадаваемых у нас тальяцінскіх малалітражак — рээкспартныя). Так, сёння вельмі цяжка знайсці «ВАЗ-21051», 21063, 21072, 21081, аснашчаныя рухавіком рабочым аб'ёмам 1300 куб. см. Попыт на іх не толькі ў Беларусі, але і ў СНД невялікі, і таму імпарцёры стараюцца не закупляць такія мадэлі, робячы ўпор на больш магутныя — 1,5—1,6-літровыя карбюратарныя версіі, а таксама 1,7-літровыя інжэктарныя (з упырскваннем паліва).

Паляўнічыя, рыбаловы, дачнікі, напэўна, будуць «паляваць» за поўнапрываднымі версіямі ўсюдыходаў «Ніва-Тайга». Але перш чым дасягнуць запаветнай мэты, ім трэба будзе раскашэліцца на 8000—8400 долараў ЗША за «ВАЗ-21213» або на 8200—8300 долараў ЗША — за «ВАЗ-21214».

**Такім чынам, вы ў курсе самых свежых цэн. Званіце на фірмы, наведвайце аўтасалоны, і — удалай пакупкі!**

**Аляксандр ТРАХАЧОЎ.**

### ВЯСНА... КАЛЕЙДАСКОП ЦЭН ЗНОЎ КРУЦІЦЦА

**Мінулы тыдзень па «традыцыі» не абышоўся без чарговай змены цэннікаў на шэрагу харчовых тавараў у многіх рэгіёнах краіны. Найбольш істотнае павелічэнне мінімальных рознічных цэн адбылося ў групе плодаагароднінай прадукцыі, напэўна, у сувязі з заканчэннем зімы і дэфіцытам вітамінаў.**

Так, рознічныя цэны павялічыліся ў Магілёве: на бульбу — на 7,7 працэнта, на цыбулю — на 20 працэнтаў; у Брэсце: на моркву — на 25 працэнтаў, капусту — 14,3, буракі — 17,9 працэнта; у Гомелі: на цыбулю — на 12,7 працэнта, на капусту — на 50 працэнтаў. Камітэт цэн Мінэканомікі сумесна з абласнымі аддзеламі цэн правёў аператыўныя праверкі абгрунтаванасці такога росту цэн, у выніку чаго высветлілася, што разам з аб'ектыўнымі прычынамі мелі месца і манапольныя павелічэнні прадпрыемствамі ўзроўню цэн.

З асноўных харчовых тавараў за мінулы тыдзень узровень мінімальных рознічных цэн узрос таксама на сыр цвёрды ў Магілёўскай вобласці (3,8 працэнта) за кошт паступовага павелічэння ў гандлёвай сетцы сыроў, выпрацаваных пасля студзеньскага павелічэння закупачных цэн на малако, а таксама на мяса птушкі ў Віцебску і Магілёве (4,4—4,9 працэнта) у сувязі з пераходам прадпрыемстваў сістэмы птушкапрома да адпускных цэн, якія дзейнічалі са жніўня 1995 года (у зімовы перыяд з-за значных паставак замежных курыных кумпячкоў і зніжэння попыту на айчынную птушку адпускныя і рознічныя цэны на яго зніжаліся, а вытворчасць мяса птушкі была стратнай).

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### АЛІМПІЙСКІЯ КЛОПАТЫ БЕЛАРУСКАГА ЎРАДА

**Ход падрыхтоўкі зборнай каманды Беларусі да XXVI летніх Алімпійскіх гульняў у Атланце разгледжаны на рабочай нарадзе пад старшынствам віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча. У ёй прынялі ўдзел кіраўнікі Міністэрства фінансаў, Міністэрства спорту і турызму і Нацыянальнага алімпійскага камітэта.**

На нарадзе, у прыватнасці, адзначалася, што практычна выкананы ўсе перадалімпійскія мерапрыемствы. Абмяркоўваліся таксама пытанні далейшага фінансавання вучэбна-трэніровачных збораў, набыцця білетаў на авіярэйсы ў Амерыку, куды будзе дастаўлена 210-220 атлетаў, трэнераў, урачоў і афіцыйных асоб.

Падводзячы вынікі нарады, Уладзімір Русакевіч асабліва падкрэсліў той факт, што ўпершыню ў гісторыі нашай дзяржавы на летніх Алімпійскіх гульнях Беларусь будзе прадстаўлена самастойнай камандай. Ён пацвердзіў гатоўнасць урада рэспублікі адшукаць усе неабходныя сродкі для падрыхтоўкі нашых спартсменаў да Гульняў-96 і іх паспяховага выступлення ў Атланце.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**



### ЦІ СОЛАДКА БЫЦЬ АКЦЫЯНЕРАМ?

**Ледзь хопіць на два разавыя трамвайныя білеты дэвідэндаў за 1995 год ад кожнага дзесятка акцый Віцебскага адкрытага акцыянернага таварыства «КІМ» яго акцыянерам. Гэтая цікавая, а для некага даволі сумная рэч высветлілася на нядаўна прайшоўшым гадавым сходзе.**

Замест 52 млрд. рублёў прыбытку прадпрыемства атрымала ў 5 разоў менш. Аб'ём вытворчасці за год тут скараціўся амаль удвая, а ў параўнанні з 1990 годам — у 5 разоў. Прэзідэнт таварыства Уладзімір Базека па ўласнаму жаданню кінуў руль кіравання калектывам. Аднак калі акцыянеры з «КІМа» сабраліся ў сваім культурна-дзелавым цэнтры, каб зацвердзіць новага кіраўніка і мяркуемыя дэвідэнды на наступны год, яны ўпэўніліся, што залежыць ад іх зусім мала. Ільвіная доля акцый прадпрыемства ўсё яшчэ застаецца ў руках дзяржапарату нявыкупленай. Ён і правёў праз безальтэрнатыўнае галасаванне на пасаду прэзідэнта не «кімаўца», а былога начальніка ўпраўлення бытавога абслугоўвання аблвыканкома Юрыя Галыкіна. Дарэчы, апошні адразу папярэдзіў: калі калектыў не зможа выкупіць больш акцый, то інвестфонды зусім «раздзенуць» яго.

**Аляксандр ТУЛБУСАЎ.**

## ПАКУТЛІВЫ БОЛЬ ЧАРНОБЫЛЯ АДКЛІКАЕЦЦА Ў СЭРЦАХ НАРОДАЎ-СУСЕДЗЯЎ

**Сярод мноства розных форумаў, якія ва ўсім свеце праводзяцца напярэдадні дзесяцігоддзя чарнобыльскай трагедыі, адной з самых значных стала першая Міжнародная канферэнцыя Еўрапейскай камісіі, Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіны па радыелагічных выніках чарнобыльскай аварыі. Яна адкрылася 18 сакавіка ў беларускай сталіцы.**

У рабоце канферэнцыі прымаюць удзел каля шасцісот вучоных і дзяржаўных дзеячаў з 32 дзяржаў свету, а таксама прадстаўнікі буйнейшых міжнародных арганізацый — ААН, ЮНЕСКО, Еўрапарламента, Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, МАГАТЭ, Міжнароднай Федэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца. З прывітальным словам да іх звярнуўся Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Ад імя беларускага народа, парламента і ўрада рэспублікі кіраўнік нашай дзяржавы падзякаваў удзельнікам канферэнцыі за ўвагу да чарнобыльскіх праблем. «Пакутлівы цяжар вынікаў чарнобыльскай катастрофы яшчэ доўга будзе адклікацца ў сэрцах беларускага, украінскага і расійскага народаў, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Я ўпэўнены, што і вы падзяляеце наш боль».

У сваім выступленні Прэзідэнт Беларусі прывёў шэраг лічбаў, якія ён папрасіў успрыняць не толькі «халодным розумам», але і сэрцам. У выніку аварыі 23 працэнты тэрыторыі рэспублікі падвергліся радыеактыўнаму забруджванню, з гаспадарчага выкарыстання выведзена 6000 квадратных кіламетраў зямель. З найбольш заражаных тэрыторый адселена 131 тысяча чалавек. Каля двух мільёнаў чалавек, у тым ліку 484 тысячы дзяцей, пражываюць на забруджаных беларускіх землях.

Прэзідэнт удакладніў, што праведзеныя ў мінулым годзе даследаванні паказалі, што 23 працэнты тэрыторыі рэспублікі забруджаны цэзіем, 10 працэнтаў — стронцыем і каля двух працэнтаў — ізатопамі плутонію. Прэзідэнт падкрэсліў, што нягледзячы на тое, што пасля чарнобыльскай катастрофы мінула амаль 10 гадоў, найбольш пацярпеўшыя рэгіёны Беларусі працягваюць жыць у рэжыме надзвычайнага становішча.

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, у бліжэйшы час кіраўніцтва рэспублікі мае намер удзяляць больш увагі пытанням вяртання забруджаных зямель у гаспадарчае карыстанне. Ён звярнуўся да ўсіх вучоных з просьбай расшырыць пошукі найбольш аптымальных метадаў рэабілітацыі паражоных радыяцыяй раёнаў.

У заключэнне Прэзідэнт Беларусі выказаў падзяку ўсім дзяржавам, якія працягнулі руку дапамогі рэспубліцы. Ён пажадаў удзельнікам канферэнцыі паспяховай і плённай працы.

Затым з дакладамі аб праблемах постчарнобыльскага перыяду выступілі кіраўнікі дэлегацый трох дзяржаў, якія пацярпелі ад радыяцыі, — беларускі міністр па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Іван Кенік, віцэ-прэм'ер-міністр Украіны Васіль Дурдзінец і міністр па надзвычайных сітуацыях Расійскай Федэрацыі Сяргей Шойгу.

На цырымоніі адкрыцця канферэнцыі прысутнічалі таксама Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, кіраўнік урада рэспублікі Міхаіл Чыгір, члены Кабінета Міністраў і беларускія парламентарыі. У першы дзень работы ўдзельнікі мінскага форуму прыступілі да абмеркавання рэзультатаў больш чым трохгадовых навуковых даследаванняў, якія сталі вынікам падпісанага ў 1992 годзе ў Бруселі паміж ЕС, Расіяй, Беларуссю і Украінай пагаднення аб навуковым супрацоўніцтве ў вывучэнні вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Канферэнцыя завершыць сваю работу 22 сакавіка.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ВІЗІТ У РАСІЙСКУЮ ДЗЯРЖДУМУ ДАПАМОГ ВЫСВЕТЛІЦЬ ПОГЛЯДЫ ФРАКЦЫЙ НА БУДУЧЫНЮ АДНОСІНАЎ РАСІІ І БЕЛАРУСІ

**Беларускія і расійскія дэпутаты дагаварыліся аб стварэнні сумеснай міжпарламенцкай групы па падрыхтоўцы заканадаўчых актаў у галіне эканомікі. Такі галоўны вынік візіту беларускіх парламентарыяў у Дзяржаўную думу Расійскай Федэрацыі. Аб гэтым паведаміў 18 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Вярхоўным Савеце кіраўнік дэлегацыі намеснік спікера Генадзь Карпенка.**

Паводле слоў Генадзя Карпенкі, бакі пакуль што не зрабілі значных крокаў наперад з пункту гледжання эканамічнай інтэграцыі. Ён адзначыў, што гэты пункт гледжання выказвалі і многія расійскія палітыкі, у тым ліку Аляксандр Шохін, Рыгор Яўлінскі і іншыя. Як, напрыклад, падкрэсліў у гутарцы з беларускімі калегамі дэпутат Дзярждумы Бабурын, адсутнасць такіх крокаў на ўзроўні дзяржаў у сучасны момант падмяняецца цеснымі кантактамі на ўзроўні прыватнага капіталу, у тым ліку нафтаперапрацоўчага комплексу.

Сустрэчы ў Маскве паказалі, адзначыў Генадзь Карпенка, што парламенцкія фракцыі па-рознаму бачаць будучыню беларуска-расійскіх узаемаадносінаў. Калі, напрыклад, «Наш дом — Расія» і «Яблык» выступаюць за цесныя эканамічныя кантакты, зыходзячы з дзяржаўнасці дзвюх краін, то ў камуністаў больш далёкасяжныя планы: ад эканамічнай інтэграцыі — да палітычнага і ваеннага саюза. Генадзь Карпенка паведаміў, што на наступным тыдні чакаецца прыезд у Беларусь Старшыні Савета Федэрацыі Расіі Ягора Строева.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
*№ 103*
**Аб вызваленні М. А. ГАЛКО ад пасады галоўнага рэдактара «Народнай газеты»**

1. Вызваліць **Галко** Мікалая Андрэевіча ад пасады галоўнага рэдактара «Народнай газеты» ў сувязі з неадпаведнасцю выконваемай рабоце (п. 2 арт. 33 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь).

2. Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 красавіка 1995 г. № 157 «Аб назначэнні М. А. Галко галоўным рэдактарам «Народнай газеты» прызнаць страціўшым сілу.

3. Гэты Указ уступае ў сілу з моманту апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*18 сакавіка 1996 г., г. Мінск.*

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
*№ 104*
**Аб назначэнні М. В. ШЫМАНСКАГА выконваючым абавязкі галоўнага рэдактара «Народнай газеты»**

1. Назначыць **Шыманскага** Міхаіла Віктаравіча выконваючым абавязкі галоўнага рэдактара «Народнай газеты».

2. Унесці на разгляд першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання пытанне аб назначэнні Шыманскага Міхаіла Віктаравіча галоўным рэдактарам «Народнай газеты».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*18 сакавіка 1996 г., г. Мінск.*

*ПРЭСА*

## У ДОМЕ ДРУКУ ЧАРГОВЫЯ КАДРАВЫЯ ПЕРАСТАНОЎКІ

**Заўчора позна ўвечары мы атрымалі чарговую навіну з журналісцкага фронту — пра змену галоўнага рэдактара «Народнай газеты». Адбылося тое, пра што даўно гаварылі і чаго з насцярожанасцю чакалі як у калектыве рэдакцыі, так і ў журналісцкім асяроддзі ўвогуле.**

Як вядома, не так даўно Мікалаю Галко прапанавалі пайсці па ўласным жаданні, але ён наадрэз адмовіўся пакінуць пасаду. Адным словам, усе разумелі, што рэдактара знімуць, але не ведалі калі. Тым больш, што і адхіліць Галко ад пасады было куды прасцей, чым некалі І. Сярэдзіча: ён быў прызначаны ўказам Прэзідэнта, аналагічным указам і вызвалены. Юрыдычна ўсё, здаецца, чыста, застаецца толькі маральны бок.

Нечаканай для многіх была кандыдатура, якую Аляксандр Лукашэнка прапанаваў на месца Галко, — сённяшні галоўны рэдактар «Белорусской нивы» Міхаіл Шыманскі. Учора прадстаўнічая дэлегацыя з калідораў выканаўчай і заканадаўчай улады наведала калідоры дома 10а па вуліцы Б. Хмяльніцкага. Супрацоўнікам «Народнай газеты» быў прадстаўлены новы шэф, дакладней, выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара, бо на гэты раз мяркуецца, што кандыдатура будзе зацвярджацца Вярхоўным Саветам — адзіным заснавальнікам газеты, а таксама быў зачытаны ўказ аб звальненні М. Галко па прычыне... «неадпаведнасці выконваемай рабоце». Потым адбылася нарада ў «Белорусской ниве», у выніку якой стала вядома, што М. Шыманскі застаецца галоўным рэдактарам пакуль і там. Дарэчы, сітуацыя, калі адзін чалавек сядзеў на двух самых высокіх крэслах, не новая для Дома друку. У свой час сам Галко кіраваў і «СБ», і «НГ».

Што адбудзецца з творчым калектывам пасля ўсіх кадравых перастановак, сказаць адназначна цяжка. Ва ўсякім разе, учора быў прыняты зварот супрацоўнікаў выдання да Вярхоўнага Савета з просьбай вырашыць як мага хутчэй пытанні юрыдычнай абароненасці кіраўніка

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## СУПРАЦЬ ПАВОДКІ — УСЁЙ ГРАМАДОЙ

**У памяці жыхароў палескіх раёнаў Гомельшчыны яшчэ не сцёрліся трывогі і непрыемнасці веснавой паводкі 1994 года, калі многія населеныя пункты і гаспадаркі пацярпелі ад яе, як зноў трэба асцерагацца разгулу стыхіі. Бо, як сцвярджаюць спецыялісты Рэспубліканскага камітэта па гідраметэаралогіі, у час паводкі магчыма падтапленне дваццаці двух населеных пунктаў у Жыткавіцкім, такой жа колькасці іх — у Петрыкаўскім, семнаццаці — у Мазырскім, чатырнаццаці — у Калінкавіцкім, дзесяці — у Хойніцкім, дзевяці — у Нараўлянскім, шасці — у Лельчыцкім і двух — у Акцябрскім раёнах. Вядома ж, у гэтых, а таксама ў Ельскім раёне пад вадой можа апынуцца і вялікая частка сельскагаспадарчых угоддзяў.**

Такі прагноз небеспадстаўны, бо вышыня снежнага покрыва ў басейне Прыпяці ў сярэднім складае да паўметра пры запасе вады ў снезе ад сарака да ста міліметраў, што на пяцьдзесят працэнтаў вышэй нормы. На правабярэжных прытоках Прыпяці (а гэта ўжо Украіна) запасы снегу таксама вышэй шматгадовых значэнняў і пры дружным таянні яго максімальныя ўзроўні вады могуць аказацца на трыццаць—семдзесят сантыметраў вышэй звычайных велічынь.

А ўзяць лядовую абстаноўку. Спецыялісты лічаць яе даволі складанай, асабліва ніжэй Мазыра і на Кіеўскім вадасховішчы, дзе таўшчыня лёду складае ад сарака да шасцідзесяці пяці сантыметраў. У гэтай сітуацыі існуе вялікая верагоднасць

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

### БЕЛАРУСКІ «ЗАЙЧЫК»: РАСІЙСКІ РУБЕЛЬ — 2,29 НА КАРЫСЦЬ АПОШНЯГА

**Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, у выніку разліку парытэту пакупной здольнасці беларускага рубля ў адносінах да расійскага па адзінай з Дзяржкамстатам Расіі метадалогіі такі паказчык за студзень 1996 года склаў 2,29 беларускага рубля за адзін расійскі рубель.**

Як растлумачылі карэспандэнту «Звязды» ў Мінстаце, парытэт пакупной здольнасці складваецца ў выніку параўнання цэнавых характарыстык 314 відаў тавараў і паслуг двух бакоў. У гэту групу ў асноўным уваходзяць прадуктовыя і прамысловыя тавары айчыннай вытворчасці. Выключэнне складаюць імпартныя тавары, якія паступаюць у Беларусь з-за рубяжа і не маюць адпаведных аналагаў у нашай рэспубліцы. Трэба таксама адзначыць, што ў камерцыйных банках курс расійскага рубля практычна не апускаўся ніжэй адзнакі 2,4. У Нацыянальным банку Беларусі той жа рэйтынг ужо доўгі час застаецца на ўзроўні 2,37 беларускага рубля за 1 расійскі рубель.

Разлік парытэту пакупной здольнасці, паводле сцвярджэння аднаго са спецыялістаў дэпартамента валютнага рэгулявання Нацбанка служыць адным з якасных метадаў ацэнкі адносінаў курсаў розных краін. Аднак ён напрамую не ўплывае на рэальную цану куплі-продажу зыходных валют на біржы. Цяпер у галоўным банку краіны вядуцца разлікі па вызначэнню парытэту пакупной здольнасці ў адносінах да валют Украіны і Казахстана — карбованца і тэнге. Што ж датычыць вызначэння такога парытэту ў адносінах да амерыканскага долара, то, на думку работніка Нацбанка, праводзіць такія разлікі не ўяўляецца магчымым. У першую чаргу гэта звязана з істотнай розніцай у класе вырабляемых тавараў, а па другое — з велізарным адрозненнем у якасці прадастаўляемых паслуг.

**Сяргей КУРКАЧ.**



*ФОТАСЛОВА*

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Дуда ў кішэні,*
*хлеб у жмені.*
*Бывай, паночкі,*
*хадзем, браты!*
*Спяю пра волю*
*ды нашу долю,*
*каб было чутна*
*на свеце тым.*
*Дзяды пачуюць:*
*мы «не згінэлі»,*
*не сцёрла ліха,*
*не звёў прыгон.*
*Люляюць песню,*
*нібы арэлі,*
*дуда музыкі*
*і Божы звон.*



***На гэтых фотаздымках вядомы беларускі майстар народных інструментаў музыка Уладзімір ПУЗЫНЯ і малады званар Дзмітрый ЗУБОВІЧ.***

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**народны паэт Беларусі**

### ЛЕПШ НЕ ДАЖЫЦЬ...

*Лепш не дажыць —*
*Чым раптам я пачую,*
*Што мне пачуць —*
*Страшней за смерць самую.*
*Лепш у няведанні,*
*Даруй мне, Божа,*
*Астатак дзён*
*Прашкрэбаць на зямлі*
*І з верай адысці,*
*Што ўсё ж не зможа,*
*І ўсё ж не зможа*
*Чорны яд змяі,*
*Хоць ён і трапіў*
*З раны ў кроў жывую,*
*Дайсці да сэрца Маці*
*І спыніць*
*Біццё ягонае!..*
*Лепш не дажыць,*
*Чым тое знаць,*
*Што горш за смерць самую.*
11.3.1996

### ЗНОЙДЗЕШ!

*Вось і зноўку ты заенчыў,*
*Братка-беларус,*
*Што жыццё табе знявечыў*
*Нелюдзяў хаўрус.*

*Енчыш ты і ўсё пытаеш:*
*«Па чыёй віне?»*
*І штодзень збыцця шукаеш*
*У п'янкім віне.*

*Не тужы, бядак-гаротнік!*
*Не прывык хіба?*
*Не да смаку ў падваротні*
*Жыць жыццём раба?*

*Ты ж яшчэ, як пры лучыне*
*Дзеткам лапці плёў,*
*Рады быў, што прылучылі*
*К стану халуёў.*

*Дык не плач, што не па-боску*
*Бог адмераў зла.*
*Кінуць, кінуць табе костку*
*З панскага стала.*

*Раз не маеш сам намеру*
*Стаць гаспадаром —*
*Знойдзеш, знойдзеш на вячэру*
*Костку пад сталом.*
9.3.1996

### КЕПСКА КОНЧЫШ, СУСЕДЗЕ!

*Суседзе мой, ты што гэта —*
*Сур'ёзна ці жартуеш?*
*Ці ўкруг сябе нічога ты*
*Не бачыш і не чуеш?*

*Процістаянне ўсякае*
*Раўняецца крамоле,*
*А ты яшчэ ўсё вякаеш*
*На гэтай хамскай мове!*

*Зірнуў бы, недарэка ты,*
*Што робяць хлопцы-хваты:*
*Дырэктары, прарэктары,*
*Міністры, дэпутаты.*

*Яны і дня не думалі!*
*На хвалі паваротнай —*
*Як па камандзе плюнулі*
*У сэрца маці роднай.*

*Ураз пад грозным скіпетрам*
*Змаглі «прагрэс» засведчыць.*
*А ты? Ці гэтак выпетраў,*
*Што ўжо і плюхнуць нечым?*

*Парві з «абарыгенамі».*
*Забудзь, што родам з Грэска.*
*І — выраўняйся з гэнымі!*
*Іначай — будзе кепска!*

*Іначай лёс твой збэрсаны*
*Акажацца фатальным —*
*І ў годнасці прафесара*
*Ты кончыш падмятайлам.*
8.3.1996

### НОВААБРАНЫМ АКАДЭМІКАМ АНБ

*Браты мае, Адаме і Ўладзімер,*
*Генадзь, і Мікалай, і Леанід, —*
*Вядомыя не толькі на Радзіме*
*Вучоныя з нераспластаных ніц!*

*Я вас віншую горача з абраннем*
*У Акадэмію Навук, сябры, —*
*З даўно заслужаным высокім званнем,*
*Асвенчаным на боскім алтары.*

*Рэкамендацыі далі вам не калегі, —*
*Дабраславеннем вам быў запавет*
*Скарыны, Цяпінскага і Сапегі,*
*Што роднай мове шлях праклалі ў свет.*

*Сход Аддзялення быў у поўным складзе.*
*Сам Ігнатоўскі ў зале вас сустрэў.*
*Яшчэ ён верыць партыі і ўладзе,*
*Яшчэ не грымнуў у пакоі стрэл.*

*Пры ім, яшчэ не вязень і не ссыльны,*
*Ластоўскі — «неадменны сакратар».*
*І Лёсік побач — правапісец слынны,*
*Яшчэ не звезены ў якісь Ахтарск.*

*Далей Купала — ён яшчэ ў гуморы,*
*Яшчэ да харакіраў цэлы год.*
*З Купалам поруч Колас: хоць і хворы,*
*Але прыехаў дзеля вас на сход.*

*І Некрашэвіч — поўны творчай моцы*
*Лексікалог і віцэ-прэзідэнт,*
*І сын народа рускага Замоцін,*
*У край наш мілы закаханы ўшчэнт;*

*І першы рэктар БДУ Пічэта,*
*У вяцкі рай не высланы пакуль;*
*І Гартны — рыцар ленінскіх дэкрэтаў,*
*Яшчэ не звар'яцелы ад пакут;*

*І Нёманскі, якому курапацкі*
*Яшчэ і ў снах не зеўрыў цёмны дол;*
*І Тарашкевіч, што з вітаннем брацкім*
*У гонар вас прабраўся праз кардон...*

*Якія знаныя мужы навукі*
*Вас прынялі ў акадэмічны храм!*
*З якой павагай падалі вам рукі!*
*Якіх назычылі зычэнняў вам!*

*Вось бачыце, сябры!*
*А вы — не верылі!*
*А вы ўсё думалі, з тугой у сэрцы,*
*Што мы і сёння пад пятой імперыі,*
*Што ў нас пануюць беларусажэрцы.*

*Дык спору ў працы вам, сяўцы праўдзівых*
*І вольных дум! Я ўзрушаны да слёз:*
*З адвечных мук, крывёй перабрадзілых,*
*Дзень Беларускай Годнасці прарос!*
31.1.1996

